*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

**№ 1**
**Люты**
**2012 г.**

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

**ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА**

## У добры шлях!

Калі пачынаецца новая справа, заўсёды ёсць хваляванне. Бо ізноўку, у каторы ўжо раз, трэба ўваходзіць у амаль невядомую плынь часу і рэчаіснасці, дзе зусім новыя далягляды. Вось і зараз, распачынаючы новы выдавецкі праект, хочацца верыць, што жыхары Магілёўскага раёна праз гэтае выданне змогуць на свае вочы пабачыць тыя новыя далягляды, пагартаць старонкі магілёўскай гісторыі, больш уважліва прыслухацца да пульсу жыцця не толькі роднага Прыдняпроўскага краю, але і Беларусі.

Мы будзем імкнуцца , каб чытачы атрымлівалі аб'ектыўную інфармацыю аб адбываючыхся падзеях. Каб на гэтых старонках маглі выказваць свае думкі і меркаванні усе - без усялякіх падзелаў на "нашых" і "не нашых". І ніякія палітычныя прыхільнасці не будуць перашкодай для такіх выказванняў. І галоўнае - адсюль будзе гучаць голас праўды, бо гэта вельмі важна для кожнага з нас. Хочацца, каб у магілёўцаў было адчуванне жыцця, напоўненага сэнсам, станоўчым зместам і памкненнямі да светлай будучыні. Дзеля гэтага наша "Справа" і будзе рабіць сваю добрую і адказную справу.

Давайце пажадаем нованароджанаму выданню хуткага сталення, шырокіх шляхоў і паважлівага стаўлення ад удзячных чытачоў. У добры шлях, магілёўская "Справа"!

*Мікола ЯЦКОЎ,*
*адказны за выпуск.*

## Магілёўскі раён

**МАГІЛЁЎСКІ РАЁН** - адміністратыўная адзінка ў цэнтры Магілёўскай вобласці Беларусі. Адміністратыўны цэнтр - горад Магілёў.
**ДАТА ЎЗНІКНЕННЯ** - 17 ліпеня 1924 г.
**НАСЕЛЬНІЦТВА** (2009 г.) - 43.166 жых.
**ШЧЫЛЬНАСЦЬ** - 22,63 чал. на км.кв.
**ПЛОШЧА** - 1895. 40 км.кв.
**НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКЛАД:**
беларусы - 93,07%, рускія - 5,02%
украінцы - 1,03%, іншыя - 0,88%
**АФІЦЫЙНЫЯ МОВЫ.**
Родная мова беларуская - 73,94%.
Родная мова руская - 24,3%. Размаўляюць дома на беларускай мове - 29,51%, на рускай мове - 67,35%.






Схема і герб Магілёўскага раёна

**ГЕАГРАФІЯ.** Асноўныя рэкі - Днепр з прытокамі Вільчанка, Поўна з Лознеўкай, Дубравенка, Лахва з Лахвіцай і Жываразкай; Друць з прытокамі Арлянка і Грэза; Раста з прытокам Рудзя.

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ** раёна прадстаўлена прадпрыемствамі металаапрацоўкі, дрэваапрацоўкі, будаўнічых матэрыялаў. Працуюць шэсць асноўных прадпрыемстваў: "Завод "Вяйнянская крыніца", "Стальная лінія", "Агракамплект", "Палітэкс", "Крышталь", "Арматурны завод". Магілёўскі раён з'яўляецца адным з найбуйнейшых вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі вобласці. Спецыялізацыя - мяса-малочная вытворчасць з развітай збожжавай гаспадаркай і вырошчваннем кармавых культур, гародніны.

**ТРАНСПАРТ.** Праз раён праходзяць чыгункі на Асіповічы, Оршу, Крычаў, Жлобін, аўтадарогі на Бабруйск, Мінск, Оршу, Чэрыкаў, Гомель. Па Дняпры ажыццяўляецца суднаходства.

**АДМІНІСТРАТЫЎНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ.** За час існавання раёна яго адміністратыўна-тэрытарыяльны падзел не раз мяняўся. Апошнія змены: 1) Рашэннем Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў ад 17 ліпеня 2006 г. №18-12 Цішоўскі сельсавет перайменаваны ў Буйніцкі сельсавет у сувязі з пераносам цэнтра сельсавета з вёскі Цішоўка ў вёску Буйнічы. 2) Рашэннем Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў ад 23 снежня 2009 г. №17-16 ліквідаваны Брылёўскі сельсавет, а населеныя пункты ліквідаванага сельсавета аднесены да Кадзінскага і Мастоцкага сельсаветаў. Сёння Магілёўскі раён падзяляецца на 15 сельскіх Саветаў - Буйніцкі, Вяйнянскі, Вендаражскі, Дашкаўскі, Заводскаслабодскі, Кадзінскі, Княжыцкі, Махаўскі, Мастоцкі, Нядашаўскі, Пашкаўскі, Палыкавіцкі, Семукацкі, Сідаравіцкі, Сухарэўскі.

## Да 130-годдзя Янкі КУПАЛЫ





### Хто ты гэткі?

Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
Чаго хочаш?
— Долі лепшай.
Якой долі
— Хлеба, солі.
А што болей?
— Зямлі, волі.
Дзе радзіўся?
— У сваёй вёсцы.
Дзе хрысціўся?
— Пры дарожцы.
Чым асвенчан?
— Кроўю, потам.
Чым быць хочаш?
— Не быць скотам.

*1908 г.*

## УСЁ ПА ЗАКОНУ?

### МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА



Калі-некалі вельмі цікава чытаць загалоўкі ў нашай раённай газеце "Прыдняпроўская нiва". Шмат чаго можна даведацца. Помню, разгарнуў раёнку ў кастрычніку мінулага года, а там пра тое, што *"выполнение прогнозных показателей - закон!"* Во як! І лічбы там розныя прыгожыя, а напрыканцы "разбор палётаў" на вышыню газетнай калонкі - чаму з сямі прагнозных паказчыкаў за дзевяць месяцаў раён выканаў ўсяго толькі тры. Вядома,"па недапрацоўках" былі заслуханы кіраўнікі "вінаватых" прадпрыемстваў і прыняты адпаведныя рашэнні. А газетны загаловак урэзаўся ў памяць...



На заседании райисполкома

**Выполнение прогнозных показателей – закон!**

На очередном заседании районного исполнительного комитета основным на повестке дня стоял вопрос **«Об итогах работы** ... нено задание в рамках прогнозного показателя по вводу жилья.
Наряду с объективными причинами, имеют место и недора-...

Вось і новы год надышоў, а з ім і больш шырэйшы "разбор палётаў" - гадавы. І зноўку, ужо ў студзеньскім нумары "раёнкі" тая ж самая мантра пра *"выкананне - гэта закон"*. Праўда, слова *"прагнозных"* памянялася на *"асноўных"*, - відаць, нейкі разумны кіраўнік успомніў вядомую народную мудрасць: *"Калі хочаш насмяшыць Бога - раскажы яму пра свае планы"*. І былі ўжо тут толькі пабедныя рэляцыі: усё добра! Справіліся!.. І амаль ў самым канцы маленькі абзац на чатыры радкі пра тое, што былі *"заслушаны руководители хозяйств, в которых не выполняются доведенные показатели"*.



На заседании райисполкома

**Выполнение основных показателей – закон для всех**

*Итоги работы отраслей народного хозяйства Могилевского района рассмотрены на очередном заседании райисполкома, ко-...*

І чаму такі супраціў у гэтых кіраўнікоў? А можа справа не ў кіраўніках, якія, напрыклад, у пазатым годзе выканалі *"прагноз"* і былі добрымі работнікамі,а потым ім *"ад дасягнутага"* навалілі зверху яшчэ працэнты росту - і апынуліся яны ў мінулым годзе ў ліку адстаючых і вінаватых. І нічога ж ў іх не памянялася - тая ж галава, тыя ж рукі. Але ж - вінаватыя!

У чым вінаватыя? Закон такі? Усё па закону? А што гэта за закон такі? Адкуль ён узяўся на галаву гаротных начальнікаў? Хто гэтыя лічбы прыдумляе, з якой столі яны бяруцца?..

Можа, трэба прыслухацца да меркаванняў эканамістаў, якія ўжо літаральна пачынаюць біць трывогу і казаць пра абсурднасць такога становішча ў нашай эканоміцы. Давайце паслухаем вядомага беларускага эканаміста Аляксандра ЛУЧАНКА, які лічыцца экспертам у гэтым цікавым пытанні...

( заканчэнне на с.2 )

Заканчэнне. Пачатак на с.1

# УСЁ ПА ЗАКОНУ?

## Александр ЛУЧЕНОК: НАДО ЛИ ПЛАНИРОВАТЬ ВАЛ?

В административной системе оценить работу руководителя проще всего по выполнению доведённых ему показателей. Кроме того, быстрое увеличение объёмных показателей у нас принято считать свидетельством эффективности экономической системы. Исполнители привыкли к объёмным показателям и научились с ними справляться. Отработанные за годы директивной советской экономики приёмы не забыты и успешно используются.



Плановые («прогнозные») показатели практически никогда не устанавливаются путём тщательного подсчёта имеющихся резервов. Поэтому показатели устанавливаются «от достигнутого»: к базовому уровню добавляют процент прироста и получают «прогнозную» цифру. Но умный директор базовый уровень заранее занизит и тем самым облегчит себе жизнь.

Из теории известно, что в экономической системе, эффективность которой оценивается исходя из выполнения доводимых показателей, резко возрастает склонность к искажению информации в сторону её приукрашивания. А как же иначе: за плохие результаты не только премии, но и работы лишат...

Пора отказываться от объёмных показателей и заняться реальным повышением эффективности хозяйствования во всех звеньях. При этом нужно менять систему управления экономикой: производить не ради выполнения показателей, а исходя из реального спроса. И главное в этом направлении -- создать такие условия хозяйствования, чтобы люди работали не из-под директивной палки, а исходя из выгоды как для государства, так и для себя.

*("СБ. Беларусь сегодня")*

## ТЕХНОЛОГИЯ ПРИПИСОК - КАК ЭТО ДЕЛАЕТСЯ

*Предлагаем вашему вниманию выдержку из приговора по уголовному делу по обвинению группы работников Климовичского района. Они занимались приписками в сельском хозяйстве, давали "нужные" результаты и в конце концов были разоблачены.*

"Н., являясь должностным лицом по признаку выполнения организационно-распорядительных обязанностей, из личной заинтересованности, противоречащей интересам службы, выразившейся в стремлении создать видимость благополучного положения в хозяйстве и избежать дисциплинарной ответственности за невыполнение прогнозных показателей, с целью искажения данных государственной статистической отчётности, используя свои служебные полномочия, умышленно вносил заведомо ложные сведения и записи в официальные документы - отчёты о состоянии животноводчества (формы 24-сх), а именно: фиктивно завысил валовой надой молока и валовой привес крупно-рогатого скота, что повлекло за собой искажение данных государственной статистической отчётности.

На него, как на руководителя хозяйства, оказывалось давление в связи с тем, что необходимо было выйти на прогнозные показатели по надоям молока и привесам скота. В случае невыполнения прогнозных показателей, он был бы привлечён к дисциплинароной ответственности. В связи с этим он дал указание бухгалтеру по животноводству С. поставить в форму 24-сх завышенные показатели по надоям и привесам. С. по его указанию заполнила эти формы, однако подписывать их категорически отказалась, сказав, что данные сведения недостоверные и подписывать отчёты она не будет. После этого он сам подписывал данные отчёты во всех графах и сдавал их в управление сельского хозяйства и продовольствия райисполкома, а затем данные отчёты направлялись в отдел статистики для включения сведений в государственную статистическую отчётность.

Свидетель К., работающая заведующей фермой, показала, что директор Н. давал сведения о надоях молока диспетчеру Б., а та сообщала эти сведения по телефону в райисполком. Свиделель К. увидела у диспетчера сведения по надоям, в которых показатели были завышены. Пошла к директору Н. и сказала ему, что данные цифры по надоям нереальные. Н. сказал ей, что он директор и отвечает за эти сведения, что нужно выполнять прогнозные показатели, и что если она хочет работать, то должна поставить в отчёт эти завышенные сведения..."

*("Выбар")*

**І надалей будзем сцвярджаць, што *"Выполнение прогнозных показателей - закон»* ?..**

***Антон ДУБАЛОМАЎ.***

# ВЫНІКІ ГОДА

## КРЫМІНАЛЬНЫ ЭКСПРЭС



Як паведамляе Магілёўскі РАЎС, за 12 месяцаў 2011 г. зарэгістравана 751 крымінальная дзеянне. Раскрываемасць злачынстваў па "гарачых слядах" саставіла 56,3%. Следча-аператыўныя групы рабілі па 20-30 выездаў штодня.

Па паведамленні пракуратуры Магілёўскага раёна, за 2011 г. пракуратурай вывучана і накіравана ў суд 281 крымінальная справа адносна 329 чалавек. Учыненная злачынствамі шкода грамадзянам і юрыдычным асобам склала больш за 123 млн. рублёў. Удалося дабіцца пакрыцця прычыненай шкоды на суму больш за 98 млн. рублёў. Быў накладзены арышт на маёмасць абвінавачаных на суму болей за 9 млн. рублёў.

Праверкамі, якія праводзіліся пракуратурай, былі выяўлены шэраг недахопаў, якія допускалі супрацоўнікі крымінальна-выканаўчай інспекцыі пры выкананні пакаранняў. Па выніках праверак начальніку Магілёўскага РАЎС унесены 2 прадстаўлення, яшчэ 1 прадстаўленне ўнесена на імя начальніка УУС Магілёўскага аблвыканкама.

Пракуратурай раёна за мінулы год разгледжана 17 скаргаў на дзеянні следчых і дазнавацеляў па крымінальных справах і 2 з іх прызнаны абгрунтаванымі. У адносінах да супрацоўнікаў РАЎС, допусціўшых парушэнні закона, узбуджаны дысцыплінарныя дзеянні. Усяго ж па патрабаванні пракурора да матэрыяльнай альбо дысцыплінарнай адказнасці за 11 месяцаў 2011 г. прыцягнута больш за 30 супрацоўнікаў Магілёўскага РАЎС, якія допусцілі тыя ці іншыя парушэнні праў грамадзян ці заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Як бачым, крымінальная абстаноўка ў Магілёўскім раёне застаецца даволі напружанай, і аб гэтым сведчаць 20-30 штодзённых міліцэйскіх выездаў на месцы здарэнняў. Мы будзем сачыць за дынамікай развіцця гэтага боку нашага жыцця, аналізуючы вытокі такой крымінальнай актыўнасці.

***Алесь СУВОРАЎ.***

*(Па матэрыялах"ПН")*

# 2012 - Год кнігі

Бягучы год аб'яўлены ў Беларусі Годам кнігі. Такое рашэнне прынята ў мэтах павышэння ролі кнігі і чытання ў сучасным грамадстве, выхавання ў маладога пакалення любві да мастацкага слова, развіцця айчыннай літаратуры, забяспячэння дзяржаўнай падтрымкі нацыянальнага кнігавыдання. Савету Міністраў даручана зацвердзіць план мерапрыемстваў па правядзенню гэтага года.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: а ці знойдзецца ў гэтым плане месца для літаратараў, якія ўваходзяць у "стары" Саюз беларускіх пісьменнікаў? Напомню, што там зараз класікі нашай літаратуры Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Анатоль Вярцінскі. І яшчэ каля 400 творцаў. Але логіка апошніх часоў сведчыць аб тым, што ўлады "бачаць" толькі "новы" Саюз пісьменнікаў Беларусі на чале з былым генералам міліцыі Мікалаем Чаргінцом і толькі з ім ладзяць пэўныя стасункі. Гэта не вельмі правільна, бо дзяліць літаратараў на "нашых" і "не нашых" - поўны абсурд. І мясцовыя ўлады, на мой погляд, не павінны звяртаць увагу на нейкія цьмяныя сталічныя "разборкі", а размаўляць са сваімі літаратарамі без усялякай перадузятасці.



***Сяргей ПІСЬМЕННЫ.***

Запрашаем усіх жадаючых рабіць "Справу" разам з намі - выказваць свае меркаванні, паведамляць цікавыя навіны, расказваць пра набалелае. Калі нехта па нейкіх прычынах не захоча называць сваё імя - калі ласка, мы ўсё разумеем. Афіцыйныя выданні ў асноўным пішуць пра станоўныя моманты нашага жыцця. Але ў нас амаль кожны дзень з'яўляюцца нейкія жыццёвыя праблемы, пра якія трэба казаць у голас. Калі ёсць хвароба, яе трэба лячыць, а не замоўчваць і спадзявацца на "авось". Калі што ёсць сказаць - ідзіце да нас. Калі спатрэбіцца нейкая прававая дапамога - звяртайцеся. Будзем разбірацца, і па магчымасці абавязкова дапаможам. Усе нашы кантакты пазначаны вось тут унізе, - тэлефануйце, пішыце на электронную пошту, заходзьце да нас "вКонтакте". Мы будзем рады кожнаму вашаму візіту. І няхай наша агульная "Справа" будзе светлай, разумнай, мэтанакіраванай і вельмі запатрабаванай.

*Адказны за выпуск.*

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru
Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.02.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

вКонтакте http://vk.com/id168308417

*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 2
Люты
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА



## Да 130-годдзя Янкі КУПАЛЫ



## Перад будучыняй

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэсьнем мы з душой,
упаўшай, зьвяўшай,
Каб выйсьці ў сьвет,
як нейкі здольны род...
Сягоньня мы жывём,
і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асьляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Ня ведаем, ня можам, хоць і час.
Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў,
Шукаем, як сьляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.
Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць ня ў моцы йшчэ;
Снуёмся,
ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.
Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.
А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.
Нявольніцтва й жабрацтва так нас зьела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што на'т у вочы глянуць, плюнуць сьмела
Ня сьмеем, стоптаныя на пясок.
Там чутна: Беларусь!
Там – Незалежнасьць!
А там – «Паўстань, пракляцьцем»...
Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня...
разьбежнасьць...
Бяз толку крыльлем хлопаем,
як цьмы.
О так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем, і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, –
Заходні, ўсходні, ці ад нас, ці к нам?
Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпыну выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.
З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у сьвет –
скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сьведкі,
Што мы – ня мы, што нехта вінават...
І так жывём, сябе саміх ня знаўшы,
Учора, сёньня лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй
нашай
Навек залом пракляты заламаў?
Няўжо нас не аб'ясьніць розум ясны
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны –
Кліч бураломны: вызваленьне з пут?!

*1922 г.*



## Асвяцілі Храм

Вялікай радасцю для ўсіх праваслаўных вернікаў і жыхароў Магілёўскага раёна стала асвячэнне Храма Святой Параскевы ў Палыкавічах. У прысутнасці шматлікай паствы епіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Сафроній правёў абрад асвячэння і Божую літургію. Трэба дадаць, што тут, ля святой Палыкаўскай крыніцы, раней стаяла драўляная царква Святой Параскевы, дзе часта маліўся апошні расійскі імператар Мікалай II, калі ў Магілёве ў 1916 - 1917 г.г. дзейнічала Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## Трэба эканоміць!

Шмат чаго цікавага можна даведацца, напрыклад, на сесіі абласнога Савета дэпутатаў. Асабліва, калі абмяркоўваецца і зацвярджаецца прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і бюджэт вобласці. Што цікава, існуючыя праблемы называюцца сваімі імёнамі і не асабліва хаваюцца ды лакіруюцца. Менавіта нам было прыемна пачуць, што па даследванню Міністэрства эканомікі наш Магілёўскі раён разам з Магілёвам і Бабруйскам трапілі ў разраз *"развітых"*. Да групы раёнаў, якія *"развіваюцца"* аднесены Бялыніцкі, Бабруйскі, Быхаўскі, Касцюковіцкі. Крычаўскі, Мсціслаўскі, Асіповіцкі і Шклоўскі. *"Крызіснымі"* раёнамі названы Кіраўскі. Клімавіцкі, Краснапольскі, Круглянскі, Слаўгарадскі і Чэрыкаўскі. У самую апошнюю, *"дэпрэсіўную"*, групу трапілі Глускі, Горацкі, Дрыбінскі, Клічаўскі. Хоцімскі і Чавускі раёны.



Было адзначана, што ўзрастае датацыйнасць абласнога бюджэту - яна складае ўжо 52%, і з рэспубліканскага бюджэту вобласць атрымае больш за 4,5 трлн. рублёў датацый.

Заданне вобласці па тэмпах росту валавога рэгіянальнага прадукта на 2012 год зацверджана ў памеры 105,1 - 105,6%, і гэта негледзячы на тое, што ў 2011 г. Магілёўшчына аказалася на апошнім месцы ў краіне па тэмпах росту прамысловай вытворчасці.

Прамых замежных інвестыцый запланавана прыцягнуць у эканоміку рэгёна 104 млн. долараў. І ў гэтай сувязі прагучала нават і такое ці то ўказанне, ці то прапанова: *"Трэба шукаць нябедных землякоў за мяжой!"*

Асаблівую заклапочанасць выклікае тавараабарот: у мінулым годзе па аб'ёмах рознічнага тавараабароту гандлю і грамадскага харчавання наша вобласць была на перадапошнім месцы ў краіне.

Аб'ём расходаў па падрыхтоўцы і правядзенню "Дажынак" у Горках складае 433 млрд. рублёў, з якіх 81 млрд. выдаткоўвае рэспубліканскі бюджэт, астатняе - абласны.

*"Вобласць павінна працаваць у рэжыме жорсткай эканоміі!"*- такое патрабаванне выказаў старшыня аблвыканкама Пятро Руднік.

Сярод рэзерваў папаўнення абласной казны эканамісты бачаць і такія, як павышэнне ставак па падатках на маёмасць і аптымізацыю сеткі бюджэтных устаноў і колькасці занятых у бюджэтнай сферы. Пачуўшы такое, чамусьці адразу ўбачыўся велічны будынак магілёўскага Дома Саветаў і падумалася: "А можа пачнуць аптымізаваць бюджэтныя ўстановы не з сельскіх школ ды бібліятэк, а вось адсюль, дзе прорва народу ў асноўным толькі і займаецца тым, што бесперапынна штампуюцца нейкія паперы, у якіх, так мовіць, бясконцыя *"планы выканання мерапрыемстваў па рэалізацыі плана мерапрыемстваў па нарошчванню абстаноўкі"?..."* Нешта вось такое падумалася... А ўслед і другое дадалося ў галаве: "Марыць - не шкодна!".

Але хто яго ведае... Можа і здзейсняцца ружовыя мары абласных кіраўнікоў -- і знойдуцца замежна-заможныя земляки, і не будзе ніякага адмоўнага сальда, і агромністыя працэнты выраблёнага валавога прадукту не заваляцца ў спячку на складах, а весела разляцяцца па ўсяму свету, назапашваючы ў магілёўскую казну вялікі залаты запас.

Дай, Божа, каб так і было!..

*Антон ДУБАЛОМАЎ.*

Пры фінансавай падтрымцы Магілёўскай абласной арганізацыі "Беларускае дабраахвотнае пажарнае таварыства" падведзены вынікі абласнога агляду-конкурсу "Бяспечнае дзяцінства" сярод устаноў дашкольнай адукацыі. Другое месца атрымала ўстанова адукацыі "Яслі - сад п. Усход" Магілёўскага раёна. Віншуем!

*"ЧЫМ БЛІЖЭЙ ДЗЯРЖАВА ДА ПАДЗЕННЯ, ТЫМ БОЛЬШ ШМАТЛІКІЯ ЯГО ЗАКОНЫ"* Тацыт.

# В чём секрет долголетия?

**Когда встречаешься с интересным человеком, за плечами у которого большой жизненный путь, то всегда волнуешься. Потому что всегда узнаёшь много нового - о жизни, о времени, о судьбах страны. Такая вот встреча и состоялась ясным февральским днём в деревне Петровичи с Зинаидой Леоновной Голубцовой, которая всю жизнь работала на ниве народного образования и была первой Музой нашего знаменитого земляка - известного могилёвского литератора Якова Кирилловича Усикова.**

**Давайте полистаем страницы этой памятной встречи...**



*Воспоминания...*

...В деревне Антоновка во время войны открыли начальную школу, где работало 4 человека на четыре класса, в том числе и Зинаида Леоновна. Якуб Кириллович Усиков в это время работал в шести километрах от нее, в Амховской школе. Его коллега жил недалеко от Зинаиды Леоновны и неоднократно приглашал к себе в гости Якуба. Именно там и произошла первая встреча, которая стала судьбоносной.



*З.Л.Голубцова*

*«С Яковом мы прожили 7 лет. Брак регистрировали в Чаусах в феврале или марте 1943 года, куда на телеге привёз нас его коллега. 10 августа 1944 года у нас родилась дочь Мария, Манечка.*

*А в самом начале войны Якуб Кириллович с друзьями Сашей Ковалёвым и Петром Денисенко ушли в партизаны. Среди партизан был предатель, и однажды отряд окружили немцы. В тот день погибли все, кроме Усикова и Денисенко... Яков ночью добрался до соседней деревни с овчинкой на ногах - оборвал рукава из овчинной шубы и смастерил. Моя двоюродная сестра, у которой муж был на фронте, дала ему ботинки. Всю ночь мы с Яшкой и Денисенко добирались до Кадино. Две недели скрывались у родителей Яшки, а затем ушли в Большую Боровку.*



*Я.К.Усиков*

*После освобождения вернулись в Кадино. Яков отправился сразу в военкомат, чтобы оформить документы на фронт, я же пошла в родные Петровичи. И начала работать в школе соседней деревни Голени, учительницей начальных классов. На три первых класса (в каждом по 23-25 человек) был только один букварь. Нородилось шить рабочие тетради. Коллектив наш был очень дружный...»*



*С дочерью Марией*

**Лариса ПЕТРУСЁВА,**
**учитель Кадинской СШ.**

(Заканчэнне будзе)

## Гонар і слава зямлі Магілёўскай
### Славутыя ураджэнцы Магілёўскага раёна

УСІКАЎ Якуб (Якаў) Кірылавіч (псеўд. Я.Кірылаў, Я.Саблін, Я.Усік, Якуб Усік) - 1919, д. Кадзіна - 1995, г. Магілёў.
Удзельнік Вялікай Айчынай вайны. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Узначальваў кафедру беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута.
Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар шасці кніг.
Іменем Я.Усікава названа вуліца ў г.Магілёве.

# ГАРЫМ!

► 20 студзеня ў жылым доме ў в.Вялікія Бялевічы здарыўся пажар, на якім загінуў гаспадар дома. Прычына - непатушаная цыгарэта.

► 1 лютага гарэла ў в.Халмы - там апёкі 1-2 ступені атрымала гаспадыня дома. Прычына - неправільная эксплуатацыя пячнога ацяплення.

► 14 лютага ў в.Мішкаўка ў выніку пажара загінула грамадзянка. Яна прыйшла да свайго сябра адзначыць Дзень усіх закаханых. Там яны добра выпілі, а потым дружна задымілі цыгарэтамі, прычым, у ложку, куды адправіліся пасля застолля. Калі загарэлася, мужчына паспеў прачнуцца і выбегчы на вуліцу, а вось яго сяброўцы не пашчасціла.

► 19 лютага адбыўся пажар у в.Вільчыцы, загінуў сваяк гаспадыні дома. Прычына - распіццё спіртных напояў і неасцярожнасць пры паленні цыгарэт.

► 18 лютага ў цэнтры в.Качурына сярод дня загарэлася ў хаце Васіля Іванавіча Рамашкевіча, які зрабіў застолле разам са сваім суседам. Выпілі, пагаманілі "за жыццё", закурылі цыгарэткі, і, відаць, якую з тых цыгарэт не датушылі. Задрамалі - і не змаглі прачнуцца ад угарнага газу. Вось так і скончылася жыццё неблагіх людзей...



*В.І.Рамашкевіч*

І хочацца дадаць да гэтай апаратыўнай зводкі: людзі Будзьце пільнымі і асцярожнымі з агнём! Ён вельмі небяспечны і ніколі не даруе памылак!

**Алесь СУВОРАЎ.**

# КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ

**Па паведамленні аддзела статыстыкі Магілёўскага раёна за студзень - лістапад 2011 г. у раёне нарадзілася 468 дзяцей, што на 4,2% больш, чым у 2010 годзе.**

**За пазначаны перыяд памёр 871 чалавек (+5,3%). З агульнай колькасці памерлых 23,7% склалі асобы працаздольнага ўзросту.**

**У раёне было зарэгістравана 295 шлюбаў (+ 20,9%) і 162 скасавання шлюбаў (+ 20%).**

# Міліцыя даведалася пра сябе...

Супрацоўнікі аддзела маніторынга Міністэрства унутраных спраў правялі апрос жыхароў Магілёўшчыны аб рабоце органаў унутраных спраў Магілёўскай вобласці.

Высветлілася, што ў параўнанні з 2010 г. паказчык поўнага даверу міліцыі некалькі знізіўся і саставіў 35,9% (-1,3%), яшчэ 54,4% давяраюць, але не ў поўнай меры. Толькі 8,9% рэспандэнтаў далі адмоўны адказ.

Самы высокі ўзровень поўнага даверу, больш 40%,выказалі жыхары Краснапольскага, Кіраўскага, Глускага і Чэрыкаўскага раёнаў. Акрамя таго, 68,4% апытаных грамадзян выказалі цвёрдую гатоўнасць дапамагчы міліцыі ў барацьбе са злачыннасцю.

Ветлівасць і ўважлівасць адзначылі 44,7%, прафесіяналізм - 35,5%, грубасць і бестактоўнасць - 6,7%. Стан дарожнай бяспекі ў рэгіёне як станоўчы адзначаюць 41,8% рэспандэнтаў, 9% лічаць такі стан нездавальняючым.




**Называць міліцыянераў «мусарамі» пачалі яшчэ да рэвалюцыі, таму што вышуковая (сыскная) паліцыя насіла значкі «МУС» (Московский уголовный сыск).**




Запрашаем усіх жадаючых рабіць "СПРАВУ" разам з намі - выказваць свае меркаванні, паведамляць цікавыя навіны, расказваць пра набалелае. Калі што ёсць сказаць - ідзіце да нас. Калі спатрэбіцца нейкая прававая дапамога - звяртайцеся. Будзем разбірацца, і па магчымасці абавязкова дапаможам. Усе нашы каардынаты пазначаны вось тут унізе, - тэлефануйце, пішыце на электронную пошту, заходзьце да нас "вКонтакте". Мы будзем рады кожнаму вашаму візіту!

*Адказны за выпуск.*

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. моб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 28.02.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

вКонтакте
http://vk.com/id168308417

*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

**№ 3**
**Сакавік**
**2012 г.**

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

**ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА**

## Як ёсць



**Начальнік Упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама генерал-маёр Ф.Ф.Балейка правеў прэс-канферэнцыю па выніках працы сваіх падначаленых за мінулы год. Было адзначана, што міліцыя працавала дзейсна. У прыватнасці, былі раскрыты ўсе 59 наўмысных забойстваў, чаго не было ўжо шмат гадоў. Пайшлі на спад грабяжы, разбоі, крадзяжы з кравмаў. Дзякуючы барацьбе з п'янствам, на 3% зменшылася колькасць злачынстваў «па п'янай лавачцы», на 9,6% менш памерла грамадзян ад выпадковага атручвання алкаголем (274 чал.), больш за тысячу хранічных алкаголікаў адправіліся ў ЛТП. Трэба дадаць, што колькасць магілёўскіх "начных" гандлёвых крам скарацілася з 31 да 14.**

**Павялічваюцца крадзяжы металаў, ската з прыватных і калгасных падворкаў. Міліцыя канфіскавала больш за мільён тон метала, які незаконна везлі ў Расію. Застаюцца папулярнымі крадзяжы аўтамабіляў, асабліва ў Магілёве і Бабруйску.**

**Было ўзбуджана каля тысячы крымінальных спраў у эканамічнай сферы. Тут былі і "рэзанансныя" справы. Напрыклад, у Краснапольскім і Хоцімскім раёнах як бы для фермераў закупілі калійныя ўгнаецці па 15 долараў за тону і везлі ў Расію ўжо па 400 долараў. А ў Шклоўскім раёне першы намеснік старшыні райвыканкама даў указанне зрабіць перадаплату 100% на закупку крупнарагатага ската ў Сербіі (!) (хаця звычайная практыка 20% перадаплаты) - і 17 мільярдаў рублёў зніклі ў невядомым накірунку. Акрамя таго, у Бабруйскім раёне за атрыманне хабару ў памеры 4.000 долараў арыштавалі суддзю. За тое ж самае былі затрыманы выкладчыкі Горацкай акадэміі і Магілёўскага універсітэта харчавання.**

**Было адзначана, што дактыласкапія - добрая прафілактычная мера. І не за гарамі тыя часы, калі ў нашых пашпартах будуць электронныя чыпы з біяметрычнымі дадзенымі, якія ўжо даўно дзейнічаюць у краінах з павышанай тэрарыстычнай актыўнасцю.**

**Генерал паведаміў, што самая пільная ўвага надаецца супрацоўнікам міліцыі, якія самім фактам службы ў органах прызваныя быць прыкладам для нашых грамадзян. Але гэта далёка не заўсёды так. За мінулы год у адносінах да супрацоўнікаў міліцыі было ўзбуджана пяць крымінальных спраў, два міліцыянеры асуджаныя. Бываюць і парушэнні дысцыпліны. Тут асаблівы ўпор робіцца на прафілактыку, але калі супрацоўнік не паддаецца выхаванню нават пасля аб'яўленага спагнання - ён звальняецца са службы.**

***Алесь СУВОРАЎ.***

Фотаздымак "Веснік Магілёва".

## І нават з такіх кабінетаў зыходзяць...

**Так склалася, што праца ў райвыканкамаўскіх кабінетах лічыцца вельмі прэстыжнай - усё-ткі дзяржслужба, а гэта ў перспектыве, ў тым ліку, і неблагая пенсія. І мала хто з трапіўшых у наменклатурную "абойму" добраахвотна жадае памяняць "цёплае" месца на нешта іншае. Але ж вось тут бываюць і выключэнні. Літаральна днямі старшыня аблвыканкама П.Руднік уручыў дыплом лаўрэата рэспубліканскага конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь" Андрэю Мікалаевічу Седукову - дырэктару прадпрыемства "Газасілікат", якое месціцца ў Магілёўскім раёне. І трэба адзначыць, што А.М.Седукоў працаваў даволі працяглы час начальнікам аддзела эканомікі Магілёўскага райвыканкама і на гэтай пасадзе вызначаўся ўдумлівымі адносінамі не толькі да ўсіх акалічнасцяў эканомікі раёна, але і жыцця наогул. Вельмі любіў выязджаць у самыя аддаленыя вёскі, каб сустрэцца з людзьмі, паслухаць іх, паглядзець ім у вочы. І неяк не затрымаўся ён на гэтай утульнай пасадзе - зышоў туды, дзе рэальная справа, якую можна памацаць рукамі і ўбачыць вынікі сваёй дзейнасці. І вынікі гэтыя досыць добрыя - рэспубліканскі дыплом з рук губернатара таму сведчанне.**





*Сустрэча ў Брылях. 2008 г.*

***Антон ДУБАЛОМАЎ.***

## Да 130-годдзя Янкі Купалы





## На сход!

**На сход, на ўсенародны, грозны,**
**бурны сход**
**Ідзі, аграблены, закованы народ!**

**Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў**
**Аддай на суд свае ўсе крыўды, сьлёзы, кроў.**

**Аб вечным катаваньні, зьдзеку далажы**
**І пакажы на курганы і на крыжы.**

**І аб раскопаных магілах не забудзь,**
**Дзе груганы тваіх там продкаў косьці рвуць.**

**Як гналі пот зь цябе паны і каралі,**
**Як гналі проч цары з радзімае зямлі.**

**І як крываўляць раскаваныя рабы,**
**Як ты ўпадаеш зь непасільнай барацьбы.**

**Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі.**
**Як гібнеш зь дзецьмі ты ад катняе рукі –**

**Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход**
**Ідзі, аграблены, закованы народ!**

*1918 г.*

## Беларусь - наперадзе!

**Гаскамстат Украіны падлічыў, як змяніліся спажывецкія цэны ў краінах СНД за 2011 год. Лідэрам па росту цэн аказалася Беларусь. Так, там са студзеня 2011 г. да студзеня 2012 г. цэны ўзраслі больш, чым удвая - на 109,7%. У астатніх краінах рост быў невялікім. Так, спажывецкія тавары ў Украіне за год падаражэлі на 3,7%, у Азэрбайджане і Арменіі - на 4,8%, у Казахстане - на 5,9%, у Кіргізіі - на 3,8%, у Малдове - на 7%, у Расіі - на 4,2%, у Таджыкістане - на 7,7%. Дадзеных па Узбекістану не прыводзіцца.** *www.segodnia.ua*

## Василий ЛЕОНОВ: "В стране не рынок и не социализм!"



***Поводом к разговору с бывшим Министром сельского хозяйства Беларуси Василием Севастьяновичем Леоновым послужил тот факт, что ветеринарная и фитосанитарная служба Украины с 1 марта 2012 года приостановила ввоз на территорию Украины молока и молочных продуктов из Республики Беларусь. Официальная причина запрета - существенное превышение остатков ветеринарных препаратов, вводимых тамошним коровам. Речь, в основном, об антибиотиках в белорусском молоке, сухом молоке, сыре и других продуктах. Украинская сторона утверждает, что Беларусь систематически поставляет загрязнённую продукцию, несмотря на неоднократные предупреждения.***

***-- Господин Леонов, Вы белорусское сельское хозяйство знаете не понаслышке. Что же происходит в некогда весьма успешной отрасли республики?***

**-- Если говорить откровенно, то сельское хозяйство страны скоро с потрохами сдадут россиянам. Говорю это осознанно, видя подход к этой важнейшей отрасли хозяйствования здесь и там.**

***- Вы хотите сказать, что сельхозпроизводство Беларуси, в которое закачиваются триллионы белорусских рублей, не выдержит конкуренции даже с Россией?***

**-- Наверняка не выдержит! Скоро мы к этому подойдем и почувствуем на себе. Пока что и мясо, и молоко у нас не дороже российских продуктов, но это явление временное. Еще в этой пятилетке вслед за «Белтрансгазом» и другими лик-**



# В чём секрет долголетия?

( Заканчэнне. Пачатак у № 2 )

*«...Своим умением полностью отдавать себя работе, проявлять творческую инициативу коллектив славился на весь район».*

Зинаида Леоновна не раз давала открытые уроки для представителей отдела образования. Однажды пришлось давать открытый урок, а параллельно вести замену в другом классе. Пришлось как-то и четыре подряд открытых урока давать.... Но Зинаида Леоновна всегда справлялась на «пять с плюсом».



С мужем Алексеем Аверьяновичем Ермаковым и дочерьми Татьяной и Тамарой

Из воспоминаний Зинаиды Голубцовой:

*«Лето 1945 года. Во дворе залаяла собака. Подумалось: «Кто это так поздно?» А это Якуб Кириллович вернулся с войны!.. По дороге домой он заехал в Минск, чтобы оформить документы в институт. А потом мы вместе прожили семь лет, но судьба распорядилась по-своему - и нам пришлось расстаться...»*

Теперь он – преподаватель Могилёвского государственного педагогического института, а она, молодая и красивая учительница, продолжала работать в Голеневской средней школе.

А вскоре после этого открылась новая, очень важная страница жизни. Сорок семь лет (с 1950 по 1987 годы), «как один миг» прожили душа в душу Зинаида Леоновна Голубцова и Алексей Аверьянович Ермаков. Педагоги повстречались в деревне Щежерь, где он преподавал математику. А в 1953 году его перевели в Голеневскую среднюю школу, где он и проработал до её закрытия.

Кроме старшей дочери Марии, они воспитали еще двух прекрасных дочерей – Тамару и Татьяну.

...Сегодня, вновь и вновь перелистывая старый семейный фотоальбом, удивляешься жизнерадостности этой маленькой замечательной женщины, обладающей неиссякаемой энергией, оптимизмом и удивительной мудростью... Не в этом ли и состоит секрет её долголетия?



Былое и думы...

*Лариса ПЕТРУСЁВА, учитель Кадинской СШ.*

# У назвах вуліц застануцца...

Здаецца зусім нядаўна характэрную нетаропка-велічную пстаць Якуба Усікава можна было сустрэць і ў шумным Магілёве, і ў родным Кадзіне, але на карце Магілёва сёння ўжо з'явілася вуліца, названая яго імем. Магілёўскі гарадскі Савет дэпутатаў зацвердзіў і шэраг іншых назваў новых вуліц, дзе навечна застануцца імёны вядомых магілёўскіх пісьменнікаў Янкі Журбы, Платона Галавача, Васіля Шашалевіча, Васіля Каваля, Анатоля Сербантовіча, Мікаля Лук'янава, Аркадзя Кандрусевіча, Пятра Шасцерыкова, Васіля Матэвушава, Васіля Карпечанкі і Эдуарда Валасевіча. Таксама адну з найбуйнейшых вуліц назвалі ў гонар Мікалая Судзілоўскага - ураджэнца Магілёва, філосафа, вучонага і рэвалюцыянера, Прэзідэнта Сената Гавайскіх астравоў.




Новыя вуліцы паўстануць у раёне вёсцы Гарадшчына, паміж Казіміраўкай, Цішоўкамі і Ямніцкім пасёлкам.

Называць магілёўскія вуліцы імёнамі вядомых землякоў -- вельмі добрая практыка. Гэта ўсё-ткі цікавей, чым 12 завулкаў Лізы Чайкінай, 10 Падгорных, 7 Вясенніх ці "Клубный овраг", "Рыночный тупик" ды нейкі "Республиканский спуск".

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# Василий ЛЕОНОВ: "В стране не рынок и не социализм!"

( Заканчэнне. Пачатак на с.1 )

видными производствами, включая «Беларуськалий» и железную дорогу, будет потеряна и сельскохозяйственная отрасль.

*-- Полагаете, что земля перестанет родить?*

-- Дело не в земле, а в том, что к ней надо приложить и труд, и мозги, и деньги, только тогда будет отдача. К слову сказать, после войны урожайность в БССР была семь центнеров зерна с гектара. Белорусские большевики подняли ее до 25-ти. Это произошло в результате и грамотного применения удобрений, и мелиорации и всех остальных технологий

*- То есть, по-Вашему, мы сейчас проедаем то, что вложили в село коммунисты?*

-- И делаем это с большим успехом, несмотря на огромные вложения в отрасль. Выше я говорил о том, что кроме труда и денег в этом деле нужны еще и мозги.

*- Сейчас начались проблемы с поставкой молока в соседнюю Украину. Продукт не проходит по качеству. Говорят о завышенном количестве в нем антибиотиков. Как это понять?*

- В первую очередь следует посмотреть на корма. Сейчас стало модным, чтобы привесы и надои росли, применять всякие биодобавки и прочую химию. Коровы ведь часто болеют, их лечат, делают уколы и все это идет в молоко. Его по технологии следует в дальнейшее производство не пускать, но кто ж так у нас делает? И еще, поинтересуйтесь, какова бактериальная обсемененность молока, то есть уровень соблюдения гигиены при дойке, транспортировке, хранении. Тут полный мрак - грязь, коровьи, извините, испражнения и прочие не улучшающие качества продукта ингредиенты.

*СПРАВКА. Для потребителя молоко является качественным, если оно не только имеет высокую пищевую ценность, но и безопасно, то есть не содержит ни опасных бактерий, ни антибактериальных препаратов. Основными показателями, характеризующими качество молока, являются: содержание жира, бактериальная обсемененность; содержание белка, содержание соматических клеток, наличие ингибиторов, точка замерзания, алкогольная проба, термоустойчивость. Бактериальная обсемененность - это количество микроорганизмов в 1 см3 молока. В молоке могут содержаться бактерии, дрожжи и плесневые грибки. Они попадают в молоко при доении из внешней среды. Повышенная бактериальная обсемененность - результат несоблюдения правил гигиены при производстве молока и его хранении. По европейским стандартам показатель бактериальной обсемененности в сыром продукте не должен превышать 100 тыс. в 1 см3. В РБ - в три раза выше, но и эта норма часто не соблюдается. Высокая бактериальная загрязненность приводит к ухудшению вкуса, снижению питательной ценности сырого молока и изготавливаемых из него продуктов, а также способствует значительному сокращению их срока хранения.*

*-- Вот тебе и лозунг: «Покупайте белорусское!»...*

- Скажу вам так: чтобы понять какое качество молока в стране, надо попробовать сыр. Это лакмусовая бумажка качества, тут все проявляется. Даже литовский сыр ныне лучше нашего. А это говорит о качестве исходного материала, то есть молока. Вот украинцы и не хотят брать плохой товар.

*-- Так что же со всем этим делать?*

-- Главное - отправить на пенсию Лукашенко, выбрать нового президента и, наконец-то, определиться, чем заниматься: то ли рынком, то ли социализмом?

*СПРАВКА. Василий Севастьянович Леонов родился в 1938 г. в деревне Дубинец Костюковичского района Могилевской области*

*Окончил Белорусский институт механизации сельского хозяйства. Работал инженером в колхозе. Избирался на партийные должности. Был первым секретарём Могилевского обкома КПБ в 1984-1991 гг. В этой должности дал согласие на назначение А.Лукашенко директором совхоза «Городец». Поддержал А.Лука-шенко, когда тот выдвинулся кандидатом в народные депутаты СССР в альтернативу председателю Госплана БССР Вячеславу Кебичу и проиграл. Когда после выборов районные власти начали "давить" директора совхоза, В.Леонов не просто остановил их - он лично приехал в контору совхоза «Городец» и в присутствии посторонних извинился перед А.Лукашенко.*

*23 августа 1994 г. был назначен Министром сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь. 11 ноября 1997 г. задержан в собственном кабинете и помещен под стражу. А.Лукашенко обвинил его в ряде уголовных преступлений, в том числе и в причастности к убийству начальника Службы контроля президента по Могилевской области Е. Миколуцкого. Был осуждён, находился в заключении и считается одним из первых белорусских политических заключённых.*



*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*
Паводле http://govorim.by/

*"УСЯКАЯ ЎЛАДА ІДЗЕ АД НАРОДА. І НІКОЛІ ЎЖО ДА ЯГО НЕ ВЯРТАЕЦЦА". Габрыель Лауб.*

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.03.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

ВКонтакте http://vk.com/id168308417

*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 4
Сакавік
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА




Што было -- то было. А тое, што застаецца ў мінулым, робіцца неад'емнай часткай нашай гісторыі. І гэта нельна схаваць, выкрэсліць ці запамятаваць. Гісторыя любіць *памятлівых,* бо ў мінулым можна знайсці адказы на пытанні і сучаснасці, і будучыні...

Мы жывем у самастойнай і незалежнай дзяржаве. І, часам, не задумваемся над тым, што аб гэтым марылі многія пакаленні свядомых беларусаў, для каторых незалежнасць Айчыны была самай светлай марай у жыцці. Яны шукалі шляхі да гэтай мары, змагаліся і нават не баяліся ісці на смерць за яе.

Усё было... І смутны час пачатку XX стагоддзя ўрэшце даў беларусам шанц утварыць сваю незалежную і самастойную дзяржаву -- і 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Было натхненне, былі планы, запрацавалі інстытуты самастойнай дзяржавы. Але палітычныя і іншыя сутарэнні часу склаліся так, што беларускай незалежнасці тады не атрымалася...

Залатую мару дзеячоў Беларускай Народнай Рэспублікі аб дзяржаўнай незалежнасці ўвасобіла паўстаўшая ў 1991 годзе Рэспубліка Беларусь.

І сёння, калі мы ў чарговы раз адзначаем Дзень Воліі, які ў хуткім часе абавязкова стане самым галоўным беларускім святам, мы ізноўку адчуваем подых рэвалюцыйнай узнёсласці тых далёкіх часоў, калі на хвалях веры і надзеі, у роздумах і спрэчках, праз шматлікія забабоны і перашкоды нараджалася Дзяржава - Беларуская Народная Рэспубліка. Менавіта *народная*, а гэта значыць -- дзеля народа-працаўніка, які сваім спрадвечным гаротным лёсам атрымаў права жыць у свабоднай, незалежнай, квітнеючай і моцнай краіне. І я веру, што мары і спадзяванні бацькоў-заснавальнікаў нашай дзяржаўнасці абавязкова здзейсняцца на шырокіх абсягах нашай сінявокай Айчыны.

Жыве Беларусь!

***Мікола ЯЦКОЎ.***

## У вейнянцаў - радасць, у брылёўцаў - пытанні

20 сакавіка ў аграгарадку Вейна здарылася вялікая радасць -. адчынілася ўзноўленая лазня. Зараз тут усяго за 4.500 рублёў можна і папарыцца, і адпачыць. У перспектыве тут плануецца адчыніць і міні-краму, дзе можна будзе набыць сокі, кулінарныя вырабы, цукеркі і іншыя прысмакі. Адзначаецца, што вялікія намаганні ў адкрыцці новай установы для сяльчан прыклала кіраўніцтва Магілёўскага райвыканкама, якое знайшло грошы на гэты праект. Раённая газета "Прыдняпроўская ніва" напісала літаральна наступнае: *"На этом примере очевидно, что районная власть заботится не только о показателях, но и о быте людей, чистоте и красоте окружающего мира".* Усё правільна: трэба дбаць не толькі пра паказчыкі, але і пра людзей. А яшчэ трэба, каб людзей не дзялілі на тых, хто жыве ў аграгарадках і на тых, хто жыве ў звычайных вёсках. Атрымліваецца так, што для адных - ўсё, а для другіх - амаль нічога. Узяць тыя ж Брылі: хто толькі не абяцаў адрамантаваць былую калгасную лазню! І начальнікі розных узроўняў, і нават самыя высокія дэпутаты. Але ці рукі не даходзяць да гэтай справы, ці грошай, як заўсёды, не хапае. Вядома, і брылёўцам радасна, што вейнянцы пасля шасці гадоў чакання атрымалі такі шыкоўны падарунак. Але, як толькі пачулася такая навіна, у Брылях, дзе ў кватэрах ніколі не было ні вадаправоду, ні каналізацыі, ізноўку паўсталі адвечныя пытанні: *"А ў нас калі? Дваццаць жа гадоў без лазні. Мы што - не людзі?"*



*Л.І.Губанава гасцінна запрашае...*



*Брылёўскае пытанне без адказу...*

Пытанні ёсць. А ці будуць адказы?

***Міхась БАРАЗНА.***

*Фотаздымкі - "Прыдняпроўская ніва", В. Яцкова*

## Новабудоўля ля Салтанаўкі

Старшыня аблвыканкама П.Руднік пабываў на будаўніцтве турбазы адпачынку "Зялены гарадок" у Магілёўскім раёне. Кіраўнік паставіў задачу завяршыць будаўніцтва першая чаргі турбазы да мая гэтага года і падкрэсліў, што даўно заўважана: там, дзе няма долі дзяржавы, прадпрыемствы развіваюцца больш вынікова, праекты рэалізуюцца хутчэй, таму што ёсць зацікаўленасць.

За 2011 год паступленні ў абласную казну ад арганізацый недзяржаўнай формы ўласнасці склалі каля 40%.

"Зялёны гарадок" знаходзіцца ў 15 км ад абласнога цэнтра на аўтадарозе Магілёў – Бабруйск паблізу каля вёскі Салтанаўка.

***Антон ДУБАЛОМАЎ.***

## Дэпутаты абмеркавалі

Адбылася 16-я сесія Магілёўскага гарадскога Савета дэпутатаў 26-га склікання. Старшыня горсавета Фёдар Міхеенка пасля пераліку станоўчых момантаў развіцця горада, адзначыў, што не выкананы гадавы план-прагноз па аб'ёму інвестыцый ў асноўны капітал па арганізацыях, падначаленых мясцовым Саветам дэпутатаў – фактычнае выкананне склала 401 млрд. рублёў, ці 86,7% ад задання. З прамымі замежнымі інвестыцыямі наогул здарылася напружка – пры плане 107 млн. долараў іх прыцягнулі толькі 19,5 мільёнаў.

Жылля у мінулым годзе ўвялі ў эксплуатацыю 167,5 тысячы кв. метраў (57,7% ад даведзенага гадавога задання). Старшыня гарвыканкама Станіслаў Барадаўка дадаў тут больш канкрэтна: *"Правалілі заданне па будаўніцтву жылля.."*

Ф.Міхеенка таксама выказаў заклапочанасць і па такой праблеме: *"Людзі звальняюцца і з'язджаюць туды, дзе больш плацяць, у асноўным у Расію".*

Вырашана да снежня 2012 года дасягнуць узроўню сярэднямесячная заработнай платы па гораду Магілёву не меней 4 мільёны 220 тысяч рублёў.

***Св. інф.***

## Адзіны з губернскіх

12 ліпеня 1918 года у зале Магілёўскага акругова суда (зараз гэта будынак абласнога краязнаўчага музея) па ініцыятыве старшыні Магілёўскага нацыянальнага камітэта Міхаіла Сілуянавіча Каханоўіча на ўсегарадскі сход сабралася каля 400 прадстаўнікоў мясцовых грамадскіх і палітычных арганізацый. Абсалютная большасць прысутных падтрымала абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (супраць прагаласавалі толькі двое, дзевяць чалавек устрымаліся). Магілёў быў адзіным губернскім горадам у Беларусі, які ў той час правёў такі прадстаўнічы сход у падтрымку БНР. Дарэчы, за гэту падтрымку органы Савецкай улады пасля свайго ўсталявання ператварылі Магілёў з губернскага цэнтра ва ўездны.



*Будынак акруговага суда*

***Юлія БРУК.***

## Пра заробкі

Нацыянальны статыстычны камітэт прызнаў, што за мінулыя студзень-люты рэальны заробак ў Беларусі скараціўся на 1,5% ў параўнанні са студзенем-лютым 2011 г. Рэальны заробак вылічаецца з улікам росту спажывецкіх цэнаў на тавары і паслугі. У розных галінах сярэдні заробак за люты вагаўся: ад 1 мільёна 995,5 тысяч рублёў ў сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы (мінімальны па краіне) да 5 мільёнаў 79 тысяч рублёў у фінансавай сферы (максімальны па краіне). Прамежкавы паказчык заняла сфера адукацыі — 2 мільёны 577,7 тысяч рублёў. Сярэдні заробак у галіне аховы здароўя і аказання сацыяльных паслуг складаў 2 мільёны 626,5 тысяч рублёў. Больш за ўсіх ў лютым атрымлівалі ў Мінску — налічаны сярэдні заробак склаў 3 мільёны 818,5 тысяч рублёў. Менш за ўсіх — у Брэсцкай вобласці. Там намінальны сярэдні заробак склаў 2 мільёны 550,7 тысяч рублёў.

*(Паводле БелаПАН)*



# Камітэт Дзяржкантролю інфармуе

Адбылася калегія Камітэта дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці, дзе былі разгледжаны вынікі кантроля за станам работы дзяржаўных органаў і арганізацый са зваротамі грамадзян па выніках 2011 года.

Парушэнні парадку і тэрмінаў ажыццяўлення адміністрацыйных працэдур, вядзення справаводства па іх выяўлены ў шасці выканкамах, у тым ліку ў Магілёўскім і ў васьмі сельвыканкамах, у тым ліку ў Вяйнянскім.

Камітэтам дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці падведзены папярэднія вынікі "гарачай лініі" на тэму; "Аб праблемах з уборкай вуліц і прыдомавых тэрыторый у гарадах і сельскіх населеных пунктах Магілёўскай вобласці". Усяго паступіла 24 тэлефонных зваротаў : Магілёў – 16, Бабруйск -3, Магілёўскі раён – 3, Быхаўскі і Горацкі раёны – па 1.

Атрыманыя звароты накіраваны адпаведным органам дзяржаўнай улады і кіравання для разгляду пастаўленых пытанняў і прыняцця аператыўных мер рэагавання.

# Таннае малако - праз Дзярж-кантроль



Група гараджан напісала скаргі ў Дзяржкантроль на "Бабушкіну крынку". Паводле іх, прадпрыемства вінаватае ў тым, што не пастаўляе танную прадукцыю ў крамы.

Грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі заяўляе, што ў продажы немагчыма знайсці таннае малако тлустасцю 1%, 1,5% і 3%, тварог тлустасцю 9%, а таксама абястлушчаны кефір.

Раней у мясцовай прэсе дырэктар прадпрыемства Ігар Кананчук адзначаў, што таннага малака ў крамах няма, бо на яго не даюць заяўкі гандлёвыя прадпрыемствы. Аляксей Паўлоўскі атрымаў копіі чатырох заявак з крамаў. З іх відаць, што прадукцыю туды не давозяць "Бабушкіна крынка". На адной з заявак напісана, што 12 скрынак тавару тлустасцю 9% былі прададзеныя за 40 хвілінаў.

Магілёўцы ў сваёй заяве просяць вярнуць танную прадукцыю на ўнутраныя рынкі, а вінаватых за недавоз яе ў крамы — адхіліць ад займаных пасадаў. *(Еўрарадыё)*

# Пра "Фальксвагены"

## Крымінальны экспрэс

**21**-гадовы жыхар в.Насёлкі і яго 17-гадовы памагаты з в.Мяжысеткі Магілёўскага раёна папаліся на крадзяжы маёмасці з двух аўтамабіляў "Фальксваген", якія знаходзіліся ля дома на вуліцы Касманаўтаў. Каля пяці часоў раніцы зламыснікі выцягнулі з аўтамабіляў магнітолу, трымацель для мабільнага тэлефона, шчотку і араматызатар. Злодзеі былі затрыманы, а скрадзеная маёмасць канфіскавана.

**7** сакавіка каля гадзіны ночы ў Магілёўскім раёне ля в.Сідаравічы 48-гадовы расіянін, знаходзячыся за рулем "Фальксвагена", сутыкнуўся з неўстаноўленым грузавіком, які ехаў насустрач. Кіроўцу "легкавушкі" спатрэбілася дапамога медыкаў.

**33**-гадовы расіянін ледзь не пазбавіўся сваёй машыны "Фальксваген – Пасат", якая зламалася прама на дарозе ля вёскі Красніца Магілёўскага раёна. Пакінуўшы машыну на абочыне, мужчына разам з сябрам паехаў у Магілёў, каб купіць запчасткі. А у гэты час двое маладых выпіўшых людзей дабраліся "аўтастопам" з сельскай мясцовасці у абласны цэнтр і заўважылі стаяўшую ля дарогі "безгаспадарчую" іншамарку. Яны вырашылі не ўпускаць такі выпадак і, разбіўшы шкло, паспрабавалі завесці рухавік аўтамабіля, але дарэмна. Тады яны спынілі папутку і папрасілі кіроўцу адбуксіраваць іх у Магілёў. Па дарозе мужчына зразумеў, што машына хлопцам не належыць, і патэлефанаваў у міліцыю. Супрацоўнікі Магілёўскага РАУС затрымалі выкрадальнікаў, якія раней былі ўжо асуджаныя за аналагічныя злачынствы. Зараз ім "свеціць" ад 2 да 7 гадоў турмы.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# ГАРЫМ!



5 сакавіка ноччу адбылася трагедыя ў вёсцы Атнянка Магілёўскага раёна – у полымі загінула 51-гадовая гаспадыня. Жанчына пражывала адна і нідзе не працавала. Абставіны пажару ўдакладняюцца.





17 сакавіка у другой гадзіне ночы палыхнула ў вёсцы Гарадзішча. Полымя забрала жыццё 80-гадовай жанчыны, якая жыла адна. Прычына пажару высвятляецца.

*А.С.*

# Помнім...

**27** лютага 2012 г. споўнілася 10 год з дня праведнай смерці Уладыкі Максіма, Архіепіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага. Чым далей аддаляе нас няўмольны час ад таго дня, тым больш мы разумеем, што ён быў сапраўды вялікім чалавекам.

Вось што ўспамінае пра Уладыку былы дырэктар завода "Вяйнянскі раднік" Уладзімір Дудакоў:

-- У канцы 2001 года, калі я працаваў дырэктарам "Вяйнянскага радніка", Уладыка Максім запрасіў мяне і сказаў, што асобныя дзелавыя людзі настойліва дамагаюцца ад яго дазволу па разліву вады з Святой крыніцы ў вёсцы Палыкавічы. Ён таксама сказаў, што не жадае, каб рабілі бізнес на гэтым. Па яго просьбе мы правялі шэраг даследванняў якасці вады з крыніцы. Вада адпавядала прынятым у рэспубліцы стандартам якасці. Але, калі вада з крыніцы была набрана ў цысцэрну, яе прафільтравалі і разлілі на ўстаноўцы па бутэльках, яна праз два дні ва ўсіх бутэльках сапсавалася (пратухла). Мы былі вельмі здзіўленыя, таму што пры правядзенні аналізаў вада не мяняла сваіх якасцей больш за месяц. Калі я паведаміў аб гэтым Уладыке Максіму, ён уздыхнуў з палёгкай і сказаў, што Святая Параскева не жадае, каб вадой з Святой крыніцы гандлявалі. На гэтым праект быў зачынены. Уладыка мяне супакоіў і сказаў, што так і павінна было быць.



*Максім Архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі*



*Магіла Архіепіскапа Максіма*

А вось што калісьці сказаў адзін з членаў Свяшчэннага Сінода: *"Архіепіскап Максім па сваіх заслугах быў варты высокага звання Мітрапаліта, але не стаў ім таму, што не ўмеў ладзіць з царкоўным начальствам".*

*Падрыхтавала Юлія БРУК.*

# Для дзетак і не толькі



Днямі Магілёў наведаў пісьменнік са Швецыі Ульф Старк. Спачатку госць сустрэўся са студэнтамі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта ім.А.Куляшова. Затым адбылася сустрэча У.Старка з грамадскасцю горада, якую правёў вядомы беларускі бард Віктар Шалкевіч.

Ульф Старк прадставіў сваю новую кнігу для дзяцей "Дыктатар", падкрэсліўшы, што кожную дзіцячую кніжку можна чытаць і дзецям, і дарослым, таму што *"у дзіцячай кніжцы можна напісаць тое, аб чым не напішаш у дарослай".* У новай кнізе размова ідзе пра маленькага хлопчыка, які, як яму здаецца, камандуе ўсім і ўсімі, але на самой справе падпарадкоўваецца тым абставінам, у якія яго ставяць дарослыя і навакольны свет. *"Я спадзяюся, што беларускім дзецям мае кнігі так жа будуць даспадобы, як і дзецям у іншых краінах"*, - заявіў Ульф Старк.

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## Урывак з кнігі "Дыктатар"




(...) -- Дабранач, сонейка, -- кажа мама, накрываючы яго коўдраю. А потым цалуе яго.
-- Адчапіся! – раве дыктатар. Бо дыктатараў нельга цалаваць, прынамсі не проста так.
-- Хочаш казку начаць? – пытаюцца ў яго.
-- Вядома.

Ён хоча пачуць пра "найлепшага ў свеце", казку пра сябе самога. Але такой кніжкі няма. Казкі не будзе. Дыктатар застаецца адзін, ён аддае загад, каб зоркі з месяцам сёння свяцілі на небе. Ёсць свяцісь! Урэшце дыктатар крычыць самому сабе: "Спаць!" І змушаны падпарадкавацца. Уначы дыктатару сняцца бамбавікі ды салдаты. І павукі. А яшчэ яму сняцца шпіёны, хоць ён і не ведае, хто гэта. Усе яго дужа баяцца і мусяць рабіць, што ён кажа.
-- Скакаць на адной ножцы! – ён патрабуе, -- інакш я вас кіну ў турму!
Нічога больш не прыдумаўшы, ён вяртаецца ў свой палац. (...)

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Зверстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *31.03.2012. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

ВКонтакте
http://vk.com/id168308417

*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 5
Красавік
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА




Людзі пішуць пісьмы з рознай нагоды. Асабліва часта гэта адбываецца, калі ёсць нешта набалелае ці патрэбна выказацца па нейкіх складаных пытаннях. Давайце ўчытаемся ў некаторыя з такіх лістоў...

## "Зачем нам профсоюзы?"

*"Нас, продавцов Могилёвского РАЙПО, взяться за перо вынудила обида за свой коллектив, людей, которые отдали своей нелегкой работе не один год. Все мы платим профсоюзные взносы, это в среднем по 12 тыс. в месяц, в год 150.000 рублей, а льготами никакими не пользуемся. Неужели мы не заслужили хотя бы раз в год подарок, который не стыдно было бы принести домой? Дело в том, что наше РАЙПО закупило большую партию китайской гречки и украинского пшена. К Новому году их уценили. Новогодним подарком для нас стали 2 кг гречки и 2 кг пшена. У каждого работника семьи, дети, внуки, как же было "приятно" принести им такой новогодний подарок! Нужны ли нам такие профсоюзы? Ведь за профсоюзные взносы каждый купил бы себе по 10 кг гречки (по 9.900) и по 10 кг пшена (по 4.900). Ведь мы даже ни разу не видели профсоюзного руководителя.*

*Фамилии свои указать не можем (их более сотни), т.к. все боятся, что завтра если не будем уволены, то будем наказаны другим способом".*

**ДАРЭЧЫ** З адказу кіраўніцтва Магілёўскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў спажывецкай кааперацыі: *"Некоторые факты, изложенные в вышеуказанном обращении, умышленно либо неумышленно искажены. Заявление о том, что продавцы не знают и не видели председателя профсоюзного комитета, по меньшей мере, неискренне и надуманно".*

## "Нет эффективной системы!"

*"Здравствуйте! Хочу написать по поводу сбора вторсырья. Поскольку я этим занимаюсь, опыт у меня солидный. Нет в Беларуси эффективной системы! Да, есть пункты приёма. Но в Могилёве они закрываются. Что выгодно собрать и переработать – в землю закапывают, а потом субботники проводят по наведению порядка. Леса наши завалены мусором.*

*В 2007 году возле "Континента" принимали пивные банки – 10 рублей за штуку. Я не упустил такого случая. Почистил лес возле села Константиновка. Шесть мешков сдал. Сейчас их опять накидали туристы.*

*Зачем закрывают пункты приёма вторсырья? Чем их меньше, тем больше придётся в будущем потратить средств на очистку наших лесов. Нужно не закрывать, а открывать пункты приёма вторсырья. Чем больше будут принимать, тем чище будет на земле".*

**ДАРЭЧЫ** Забруджванне лесу і іншай кустарнікавай расліннасці караецца накладзеннем штрафу у памеры 20 б/в на фізічных асобаў, да 50 б/в на індывідуальных прадпрымальнікаў і да 300 б/в на юрыдычных асобаў. Акрамя таго, парушальнік абавязаны пакрыць шкоду, зробленую навакольнаму асяроддзю.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА*
Паводле газеты "Вечерний Могилёв"

## Усё добра!

27 сакавіка А.Лукашэнка прыняў справаздачу старшыні Магілёўскага абвыканкама П.Рудніка і адзначыў, што ў гэтым рэгіёне маюцца актуальныя праблемы, якія тармазяць яго развіццё. У прыватнасці, па выніках сацыялагічных даследванняў Магілёўская (а таксама і Брэсцкая воблась) па ўзроўню даверу органам мясцовай ўлады з боку насельніцтва знаходзяцца на апошнім месцы ў рэспубліцы. Тут самы высокі па краіне ўзровень вымушанай няпоўнай занятасці. На гэтым фоне назіраецца істотнае пагаршэнне сацыяльна-псіхалагічнай абстаноўкі ў працоўных калектывах. І гэтак далей.

Адным словам, магілёўскі губернатар адчуваў сябе ў гэты дзень няёмка. Але, калі пагартаць мясцовыя афіцыйныя газеты, асабліва "раёнкі", то складваецца ўражанне, што ў нас усё добра. Напрыклад, у магілёўскай раённай "Прыдняпроўскай ніве" амаль ніколі не друкуюцца крытычныя матэрыялы на мясцовую тэматыку. Аднак ў жыцці ўсё па-іншаму - тут усяго хапае. І газета павінна адлюстроўваць жыццё. Як гэта было пры савецкім часе, калі наша "раёнка" не баялася быць "зубастай", -- звярніце настальгічную ўвагу вось на гэтыя тагачасныя рубрыкі. Ого, як мясцовыя кіраўнікі "круціліся", калі з'яўляліся крытычныя публікацыі! І хуценька імкнуліся, каб пазначанае становішча выпраўлялася. Газета "слухала" жыццё і, так мовіць, "трымала руку на пульсе". І людзі пра гэта ведалі. Таму і не стаяла ў тыя часы так востра пытанне даверу органам мясцовай улады, як гэта назіраецца сёння.

*Антон ДУБАЛОМАЎ.*







**Тлумачальны слоўнік бесталковых спраў**

Б

**Бульба.** Насенны матэрыял для вырошчвання «другога хлеба». У калгасе імя Валадарскага яго мала, бо па віне га...

**У рэдакцыю паступіў адказ**

**Становішча выпраўляецца**

23 студзеня 1982 года газета ...

М. М. Шынкарову аб'яўлена вымова. Загадчык фермы вёскі Брылі П. М. Халмоў строга папярэджан. Праўленнем калгаса строга папярэджаны ўчотчыкі гэтых ферм Г. Н. Мяшкова і ...

**Меры прыняты**

На старонцы «Народны кантроль» № 3 за 1982 год быў змешчан артыкул «Па віне заатэх...



МАЛЮНКІ З КАМЕНТАРЫЯМІ ПАСЛЯ НАВЕДВАННЯ МІХАЛЁЎСКАЙ ФЕРМЫ

— Зноў салому выкідваеш?
— Ад не ж карысці, як ад казла малака.

— Куды едзеш?
— На міхалёўскую ферму.
— Там жа сапраўднае балота...
— На лодцы як-небудзь дабяруся.

Малюнкі А. АНФІМАВА






## Новая вышыня

Кампанія "Гавары праўду" вырашыла заключыць з беларускім грамадствам "Грамадзянскую дамову". Новую вышыню кампаніі прэзэнтаваў яе кіраўнік Уладзімір НЯКЛЯЕЎ. Ён адзначыў, што ў Беларусі сфарміравалася новая большасць -- каля 60% беларусаў -- якія не давяраюць ні ўладзе, ні апазіцыі, але жадаюць, каб у краіне пачаліся неабходныя змены. Што трэба зрабіць дзеля гэтага? Перш за ўсё, дабіцца празрыстасці ўлады. Ніякія сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні немагчымы, пакуль чыноўнікі і дэпутаты не чуюць грамадзян і не нясуць перад імі адказнасці. Беларусь павінна зрабіцца Беларуссю для грамадзян, а не для маленькіх ці вялікіх начальнікаў. Менавіта на дасягненне гэтага і будзе накіравана "Грамадзянская дамова" кампаніі "Гавары праўду". Трэба бяспечнымі і законнымі дзеяннямі прымушаць улады выконваць тое, што яны і павінны рабіць.


Уладзімір Някляеў




Актывісты "Гавары праўду" у Магілёве правялі акцыю па інфармаванню насельніцтва горада аб "Грамадзянскай дамове". 3 гэтай нагоды ў жылых раёнах горада яны распаўсюдзілі некалькі сотняў улётак з тэкстам Дамовы і кантактнымі рэквізітамі «Гавары праўду». Негледзячы на тое, што ўлёткі ўжо шмат дзе пазрывалі, да актывістаў пачалі тэлефанаваць людзі, а некаторыя жыхары ужо прыйшлі па кансультацыю.

Актывісты кампаніі і надалей будуць інфармаваць магілёўцаў аб "Грамадзянская дамове" і папулярызаваць яе.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ*

# Навіны эканомікі

Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Уладзімір КРАЎЦОЎ на чарговай прэс - канферэнцыі адзначыў, што мінулы год аказаўся для нас дастаткова складаным.

Валавы рэгіянальны прадукт узрос на 6% замест запланаваных 9%. Не выканана заданне па прыцягненню ў эканоміку рэгіёна прамых замежных інвестыцый – пры заданні ў 576 млн. долараў прагназуецца толькі 70-80 млн. Увод жылля склаў 500 тыс. кв. метраў пры плане 700 тыс. Таксама не атрымліваецца выйсці на заданыя параметры па сальда знешнега гандлю.

Праблемнымі галінамі ў мінулым годзе У.Краўцоў назваў вытворчасць скур, вырабаў з скуры, абутку (недахоп сыравіны), дрэваапрацоўку і шэраг іншых.

У той жа час абласную ўладу парадавала адкрыццё новых прадпрыемстваў і новых вытворчасцей на ўжо існуючых.

Вядомы беларускі эканаміст Ленід ЗЛОТНІКАЎ адзначае, што праблемы, якія вызвалі мінулагодні крызіс, застаюцца актуальнымі і сёння. Галоўная прычына ў тым, што сёння, як і раней, спажыванне (і насельніцтвам, і ўрадам) перавышае магчымасці эканомікі краіны. Эксперт лічыць, што Беларусь, як і раней, жыве не па сродках. З другога боку, прыйшоў час аддаваць пазыкі. Сітуацыя застаецца напружанай. Па словах Л.Злотнікава, каб узровень жыцця беларусаў заставаўся на сёняшнім узроўні, неабходны грашовыя паступленні звонку -- каля мільярда долараў у месяц. Вось тады сітуацыя будзе заставацца такой, як ёсць, без далейшага падзення ўзроўню жыцця.



Каб выйсці з гэтага становішча, трэба вельмі крута рэфармаваць эканоміку, але дзеля гэтага патрабуюцца замежныя інвестыцыі і сучасныя тэхналогіі, якія пакуль што у краіну не ідуць.

Нацыянальны Банк РБ увёў у абарачэнне новую грашовую купюру наміналам 200.000 рублёў. На ёй адлюстраваны будынак Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П.В.Масленікава, які быў узведзены ў 1903 - 1914 г.г. па праекту архітэктара П.Камбурава




для двух устаноў -- Сялянскага Пазямельнага банка і Дзяржаўнага Дваранскага Зямельнага банка.


П.Масленікаў

У сувязі з гэтым трэба адзначыць, што па сёняшнему афіцыйнаму валютнаму курсу (8.000 р. за 1 долар) за гэтую самую вялікую нашу купюру можна набыць аж 25 долараў.

А нам прыемна, што Народны мастак Беларусі Павел Васільевіч Масленікаў, імя якога носіць музей, нарадзіўся ў вёсцы Нізкая Вуліца Магілёўскага раёна

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# Па Дняпры на кацеры

Дырэктар Магілёўскага аграпесатэхнічнага каледжа імя К.Арлоўскага Георгій Маліноўскі вырашыў арганізаваць прыстань і рух кацера па маршруту Александрыя – Баркалабава праз Магілёў, канкрэтна – Буйнічы і заасад. І гэтыя планы здзяйсняюцца -- работы па будаўніцтву прыстані на беразе Дняпра і насупраць заасада пачаліся. Такая водная вандроўка адносіць нас да XIX стагоддзя, калі па Дняпры па маршруту "Магілёў – Шклоў" курсіраваў параход "Русалка".


*Г. Маліноўскі*


**На Дняпры ля Магілёва.**
*Фотаздымак пачатку XX стагоддзя.*

*Падрыхтавала Юлія БРУК.*




Днямі Упраўленнем следчага камітэта па Магілёўскай вобласці была ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах 37-гадовага жыхара в.Нікалаеўка-3 Магілёўскага раёна, які ў перыяд з ліпеня 2009 па верасень 2011 года займаўся скупкай лома чорнага метала. А гэта з'яўляецца незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю. Хутчэй за ўсё, метал перапраўляўся ў Расію На такім бізнэсе мужчына зарабіў каля 100 мільёнаў рублёў. Не сакрэт, што "кропак" па закупцы метала ў нашым рэгіёне налічваецца дзесяткі.

17 студзеня гэтага года з Магілёўскай абласной бальніцы увечары знік пацыент. 54-гадовы жыхар в.Новае Пашкава Магілёўскага раёна ляжаў пасля перанесенага інсульту і без дапамогі рухацца не мог. Але знік. І толькі на днях зніклага пацыента знайшлі. Як аказалася, увесь гэты час ягоны труп ляжаў у снезе на тэрыторыі абласной бальніцы. Хутчэй за ўсё, мужчына ўпаў у сумёт і, не дачакаўшыся дапамогі, памёр. І яго замяло снегам. Цікава адно: як такое магло здарыцца?

*Падрыхтаваў Алесь СУВОРАЎ.*



# Аднак!

Валянціна АЎДЗЕЕВА, якая працуе аператарам машыннага даення ў філіяле "Серваліокс" Магілёўскага раёна надаіла ад кожнай фуражнай каровы больш за 9.000 кг малака.

І што гэта там за каровы такія?..

Чамусьці ўспомніліся савецкія часы, калі за надоі ў 4.000 - 5.000 кг давалі зорку Героя Сацыялістычнай працы.

*Міхась БАРАЗНА.*

# Как Могилёв переименовывали

К Могилеву ревнители стилистическо-идеологической девственности подбирались не раз. Не нравилось им имя, которое производят от слова *«могила»*. Хотя есть еще с десяток толкований...




Первая попытка переименования была осуществлена в 1924 году после смерти великого вождя. Город предлагали поделить на две части: Могилев (правобережье) назвать Ленинском, а левобережье - Луполово (один и тот же город!) - Ильинском. В суматохе тотальных переименований этот бред не воплотился в жизнь.

В конце 1930-х, когда на весь мир прогремела ледовая эпопея «Челюскина» и челюскинцев, была и вторая попытка. Об этом небезынтересный восторженный стих написал известный белорусский поэт Андрей Александрович (1906-1963), вскоре репрессированный. В конце своего опуса он восклицал с намеком на родину академика - главы той экспедиции: *«Хай будзе слаўны горад Шміт!»*




*Падрыхтавала Юлія БРУК.*
(Паводле газеты "Веснік Магілёва")

*"КАЛІ ЗАНАДТА ДОЎГА ГЛЯДЗІШ У БЕЗДАНЬ, БЕЗДАНЬ ПАЧЫНАЕ ГЛЯДЗЕЦЬ НА ЦЯБЕ"* Ф.Ніцшэ.

# РЫБАЛКА (Могилёвская быль)

Два любителя рыбной ловли в самую жару, которая уже с неделю плавила Могилёв, решили под мостом через Днепр половить рыбу. Само собой разумеется, взяли с собой несколько бутылок вина, выпили, закусили и немного вздремнули. Очнулись от какого-то шума и обалдели – из Днепра пили воду... с л о н ы .



-- Ты их видишь?
-- Вижу.
-- Ущипни меня.
-- Я себя уже щипал. Больно.
-- Тогда пошли домой и никому ни слова.

Три недели рыбаки не употребляли и каждый день ожидали новых галлюцинаций. А всё объяснялось просто: в Могилёв приехал цирк! И в жаркую погоду слонов водили к Днепру пить воду.

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 15.04.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Людзьмі звацца!
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 6
Красавік
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## Віншуем!



Вернікаў усіх рэлігійных канфесій віншуем з Вялікаднём! Зычым добрага здароўя, шчасця, дабрабыту, здзяйснення жаданняў і ўсяго самага найлепшага!

## Візіт





Напярэдадні Вялікадня настаяцель храма святога Панцелеімона ў в.Кадзіна айцец Васіль (Рэвель) зрабіў некалькі пастырскіх візітаў у навакольныя вёскі. 14 красавіка ён наведаў в.Брылі, дзе благаславіў вернікаў і асвяціў велікодныя гатункі. Брылёўцы з вялікай увагай выслухалі святара і ў сваіх сэрцах панеслі ад гэтай сустрэчы святочную ўзнёсласць.

## З Велікоднага звароту айца Васіля

Некалькі тысяч гадоў таму людскія душы гінулі. Калі прыйшоў Госпадзь Ісус Хрыстос, ён зрабіў новазапаветную Пасху і пазбавіў усіх людзей ад смерці. Ён даў людзям жыццё – жыццё вечнае, бессмяротнае. Кожны чалавек – бессмяротны, і бессмяротная ягоная душа. *«Пасха»* перакладаецца як *«збаўленне ад смерці»*. Пасха Хрыстова – гэта і ёсць жыццё.. Бо Госпадзь памёр і ўваскрэс -- і даў гэта жыццё ўсім людзям.

Я бы хацеў пажадаць, дарагія мае, каб вы былі годныя гэтага жыцця і па-сапраўднаму пражылі яго так, як запаведваў жыць Хрыстос. Сапраўднае жыццё і свабода – у Боге, у Хрысце, які ўваскрэс. Усіх вас віншую з Велікаднём Хрыстовым. Беражы вас Госпадзь! Хрыстос уваскрэс!



*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## Распрадажа

У Магілёўскай вобласці могуць быць выстаўлены на продаж кантрольныя пакеты адразу сямі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Яны ўнесены ў абласны план прыватызацыі на 2012 г.

У мясцовых уладаў з'явілася жаданне знайсці інвестара на сельгасугоддзі Магілёўскага, Бабруйскага, Горацкага, Клімавіцкага. Мсціслаўскага і Шклоўскага раёнаў.

На конкурсныя таргі, у прыватнасці, плануецца выставіць 99,9% акцый ТАА "Барок-агра" - гаспадаркі Магілёўскага раёна, якое спецыялізуецца на вытворчасці зерневых, зернебабовых, а таксама свіней.

Трэба адзначыць, што менавіта ў Магілёўскай вобласці створаны буйнейшыя ў краіне прыватныя аграпрамысловыя холдзінгі. Уладальнікам аднаго з іх, "Сервалюкс", які таксама месціцца ў Магілёўскім раёне і спецыялізуецца на птушкаводчым накірунку, з'яўляецца Яўген Баскін.

*Міхась БАРАЗНА.*

## У працяг тэмы

Каб падоўжыць жыццё закінутых беларускіх вёсак, улады гатовы іх аддаваць інвестарам, у тым ліку і фізічным асобам, пад турыстычныя аб'екты амаль за так -- абы толькі людзі імі займаліся. Аб гэтым паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга.

Сёння ў Беларусі досыць шмат вёсак, у якіх не жыве ніводнага чалавека. Зараз ідзе праца над тым, каб знайшліся людзі, якія, няхай за адну базавую велічыню (100.000 рублёў), маглі выкупіць гэтыя вёскі і адбудаваць іх пад турыстычныя патрэбы. Пры жаданні інвестары могуць узяцца не толькі за закінутыя, але і за дзеючыя вёскі. Як гэта, напрыклад, зрабіў адзін з беларускіх бізнэсменаў, які зарабіў свой капітал у Ленінградскай вобласці і ў Пружанскім раёне выкупіў усю вёску, дзе жыла яго маці, зрабіўшы там турыстычны і спартыўны комплексы.



*Закінутая хата ў в. Малееўка Магілёўскага раёна*

### Иван ПЕХТЕРЕВ "Деревни уходящие"

Сгорбленные плечи
Старых деревень...
Их печаль мне плещет
В душу каждый день.

Тут живут давненько
Старики одни,
Как их деревеньки,
Горбятся они.

А они ж растили
Столько лет хлеба,
Были в звонкой силе,
Да лиха судьба.

Им хватает пенсий
За нелёгкий труд,
Но хороших песен
Не хватает тут.

Нету перспективы,
Хоть у них вокруг
Те ж леса и нивы,
Тот же зелен луг.

Свадеб не хватает,
Ах, беда, беда!..
...Без детей летают
Аисты сюда.

*"Зямля і людзі", 10.02.2010 г.*

## Традыцыя

У гэтым годзе суботнікаў было ажно тры - на працягу красавіка мы дружна наводзілі прыгажосць навакольнага асяроддзя. Гэта добра - калі навокал прыгожа. І супольная праца на свежым паветры мае свае плюсы. Але ўсе гэтыя плюсы *"праздника освобождённого труда"* перакрэслівае думка аб тым, што табе за гэтую працу (не самую лёгкую ды чыстую) ніхто не заплаціць аніякага заробку, а, наадварот, у цябе грошы забяруць. Перад суботнікам, як вядома, на ўсю краіну агучваецца лічба плануемага агульнага заробку - усё гэта дзеліцца на працаўнікоў, і кожны *павінен* аддаць у тую капілку сваю частку пянёнзаў. Напрыклад, з работнікаў культуры нашага раёна збіралі па 50.000 рублёў. Відаць, самыя багатыя гэтыя работнікі. І калі раней гэтая працэдура абстаўлялася словамі *"калі ласка"* і *"па магчымасці"*, то зараз робіцца ўсё проста: *"Вы абавязаны!"* Узнікае пытанне: "Каму і што мы абавязаны?" Ці не зашмат у нас пабораў -- і латарэйкі па спісу, і прымусовая падпіска на тое, што чытаць немагчыма, і суботнікі вось гэтыя?.. Можа, не трэба неблагую па сутнасці традыцыю суботнікаў ператвараць у чарговы абсурд?

*Антон ДУБАЛОМАЎ.*




## У працяг тэмы

*Из Постановления Совета Министров РБ от 2 апреля 2012 г. № 295 "О проведении республиканского субботника в 2012 г."*

1. Рекомендовать на добровольной основе провести 21 апреля 2012 г. Республиканский субботник на рабочих местах либо осуществить благоустройство и приведение в надлежащее состояние территорий населённых пунктов. <...>

2. Установить, что:

денежные средства, заработанные на рабочих местах в объёмах, определяемых работниками, в том числе работниками, деятельность которых не связана с производством продукции (работ), в добровольном порядке перечисляются через районные и городские исполнительные комитеты в облисполкомы. <...>

4. Местным распорядительным и исполнительным органам создать в областях, районах и организациях рабочие группы для подготовки и проведения республиканского субботника с учётом участия в нём граждан исключительно на добровольной основе.

*(«Национальный реестр правовых актов РБ» 2012 г., № 40, 5/35480)*

*Якая разумная пастанова! Але слова "ДАБРАВОЛЬНА" выглядае тут нейк дзікавата,бо мы ведаем, як усё адбываецца на самой справе. І ці скончыцца абсурд?*

# Ёсць пытанне!



*“Лукашэнка у сваёй прамове на суботніку 21 красавіка разважаў пра палітузнікаў. Няўжо ў нас ёсць асуджаныя за палітыку?”*
З тэлефоннага званка ў “Справу”.

Калі вы дзе пачуеце, што ў Беларусі ёсць палітычныя зняволеныя, то па фармальных падставах гэта не адпавядае рэчаіснасці. Няма ў нас “палітычных”, бо няма адпаведных артыкулаў у Крымінальным Кодэксе. А вось пры Сталіне быў такі сумнавядомы артыкул 58 “Кантррэвалюцыйная дзейнасць”, праз які з 1921 па 1953 гады прайшлі 3.780.000 чалавек. І з нашага раёна шмат каго па ім рэпрэсіравалі - каго растралялі, каго ў Сібір саслалі. Былі нават планы і “разнарадкі” па растрэлах ды высылках. Усё было. .. А сёння такіх жахаў няма. Сёння, калі патрабуецца захаваць стабільнасць у дзяржаве, каб не было аніякіх непатрэбных розгаласаў і каб ніхто не высторкваўся з агульнага і дружнага шрагу, пачынаюць працаваць Адміністрацыйны ды Крымінальны кодэксы. Былыя кандыдаты у прэзідэнты Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Вус і яшчэ некалькі чалавек атрымалі рэальныя тэрміны турэмнага зняволення за *“арганізацыю беспарадкаў”*. Хоць тыя мінскія “беспарадкі” 19 снежня 2010 года былі даволі цікавыя: некалькі чалавек ломяцца ў дзверы Дома Ўрада, унутры забарыкадзіравалася міліцыя і не дае праходу; тут жа побач ланцуг міліцыянтаў у поўнай амуніцыі з цікавасцю назірае за гэтым ціскам на дзверы і нічога не робіць; кандыдат у прэзідэнты Рымашэўскі пачынае адцягваць хуліганаў ад дзвярэй, звяртаецца за дапамогай да маўклівых стражаў парадку і атрымлівае ад іх дубінкай па галаве; тут жа дубца атрымліваюць і Саннікаў, і Кастусёў, і шмат хто яшчэ. На гэтым “беспарадкі” і скончыліся. І пачаліся судовыя працэсы - па крымінальным артыкуле Кодэкса. А калі працуе крымінальны артыкул, то асуджаныя лічацца крымінальнікамі, а не “палітычнымі”. Тут трэба чотка аддзяляць, так мовіць, *“мух ад катлет”*.

А яшчэ цікавей адбываецца ў больш “лёгкіх” выпадках, калі *“хуліганку шыюць”*. Вось, напрыклад, выйшаў той жа Рыгор Кастусёў у касцюме з гальштукам (як ён звычайна ходзіць) з пад’езда свайго дома ў Магілёве -- да яго падышлі, узялі пад ручкі, завезлі ў міліцыю і саставілі пратакол аб тым, што ён, выйшаўшы з пад’езда, тут жа прысеў на чупышкі і пачаў *“гадзіць”*. І пайшоў Кастусёў за гэта на пятнаццаць сутак. Вось і ўсё: хуліган! Якая тут палітыка? Няма ў нас аніякіх палітузнікаў!..

... Добра, што перад Вялікаднём Андрэя Саннікава выпусцілі з турмы. Памілавалі. А зараз зірніце на гэтыя фоткі: на першай ён - кандыдат у прэзідэнты, прафесійны дыпламат, Над-






звычайны і Паўнамоцны пасол. А на другой - такая сама ён, але прайшоўшы турэмныя універсітэты ад самага пачатку, ясна усведамляючы, што без віны вінаваты. Вось такі адказ на пытанне.

*Алесь СУВОРАЎ.*

## Елена ВЛАДИМИРОВА

Мы шли этапом. И не раз,
Колонне крикнув *«Стой!»*,
Садиться наземь,
в снег и в грязь,
Приказывал конвой.
И равнодушны и немы,
Как бессловесный скот,
На корточках сидели мы
До окрика *«Вперёд!»*

Сто пересылок нам пройти
Пришлось за этот срок!
И люди новые в пути
Вливались в наш поток.
И раз случился среди нас,
Пригнувшихся опять,
Один, кто выслушал приказ
И продолжал стоять.

Спокоен, прям и очень прост
Среди согнённых всех
Стоял парнишка в полный рост,
Над нами, глядя вверх.
Минуя нижние ряды,
Конвойный взял прицел.
*«Садись!»* - он крикнул.
*– Слышишь ты?!*
*Садись!»* Но тот не сел.

Так было тихо, что слыхать
Могли мы сердца ход.
И вдруг конвойный крикнул:
*«Встать!*
*Колонна! Марш! Вперёд!»*
И мы опять месили грязь,
Не ведая куда,
Кто, с облегчением смеясь,
Кто бледный от стыда.

По лагерям – куда кого –
Нас растолкали врозь,
И даже имени его
Узнать нам не пришлось.
Но он, красивый и прямой,
Запомнился навек
Над нашей согнутой толпой
Стоящий Человек...

*Елена Львовна Владимирова родилась в 1902 г. С.-Петербурге, в дворянской семье. Во время гражданской войны сражалась на стороне красных. Позднее занялась журналистикой. В 1937 г. арестована как жена "врага народа". Пробыла в заключении более 18 лет.*

*Падрыхтавала Юлія БРУК.*




24 красавіка 2012 г. беларусы адзначылі Радуніцу - дзень ушанавання памерлых. Адпаведна праваслаўнага каляндара, Радуніца заўжды адзначаецца на дзевяты дзень пасля Вялікадня. На Радуніцу з раніцы ідуць у царкву, а потым на могілкі.

У адной з беларускіх прымавак гаворыцца так: *“На Радуніцу да абеду пашуць, у абед плачуць, а пасля абеду скачуць”.*

Беларускія крыніцы пішуць, што Радуніца - самае загадкавае пахавальнае свята сярод усіх, што захаваліся сёння ў Еўропе і наогул у свеце. Сутнасць яго ў тым, каб у гэты дзень вяртацца да магіл і карміць мёртвых родзічаў. Такога няма ні ў кога, акрамя беларусаў. І традыцыя гэтая цягнецца з язычніцкіх, дахрысціянскіх часоў.

Гэтае свята на дзяржаўным узроўні адзначаецца толькі ў Беларусі.

Па дадзеным МУС, могілкі ў Беларусі ў гэты дзень наведвае больш 1,6 млн. чалавек. Для краіны з насельніцтвам меней 10 млн. гэтыя лічбы вельмі паказальныя.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

## Правінцыя і сталіца




Да парламенцкіх выбараў у Беларусі застаецца паўгода. Аднак лідэры апазіцыі ў сталіцы і ў рэгіёнах ніяк не могуць знайсці агульную мову. У магілёўскай вобласці апазіцыянеры вырашылі дзейнічаць, не чакаючы указанняў з Мінску. Магілёўская кааліцыя грамадска-палітычных сіл будзе рыхтавацца да назірання за парламенцкімі выбарамі незалежна ад планаў апазіцыйных лідэраў у Мінску. Таксама будуць вылучацца свае прадстаўнікі ў выбарчыя камісіі і рыхтавацца назіральнікі незалежна ад партыйнай прыналежнасці.

*Deutsche Welle.*

## ЦЕНЫ - ВПЕРЁД!

В Национальном статистическом комитете (Белстате) сообщили, что цены на продовольственные товары в Беларуси за I квартал 2012 года выросли, по отношению к аналогичному периоду 2011 года, на 123,8%. В частности, мясо и птица подорожали на 149,5%, масло растительное - на 137,1%, рыбные консервы - на 195,8%, рыба и морепродукты - на 165%, крупы - на 79,9%, фрукты - 136,7%, чай - на 132,5%, сахар - на 105,5%, кондитерские изделия - на 154,5%, масло животное - на 108,8%. Цены на молоко и молочные продукты выросли на 68,8%, яйца - на 145%, макаронные изделия - на 75,3%, алкогольные напитки - на 150%, табачные изделия - на 140%. Снизились цены только на картофель - на 9,1%.




*15* красавіка ўзбуджана крымінальная справа па арт. 339 ч. 1 КК (Хуліганства) у адносінах да непрацуючага несудзімага жыхара в. Рамановічы 1991 г.н., які 3 красавіка каля 19.30, знаходзячыся на Савецкай плошчы, *“оправил естественные надобности”* на вечны агонь мемарыяла «Барацьбітам за савецкую ўладу». За такія дзеянні суд можа адправіць хулігана “на зону” на тэрмін да трох гадоў.

## "Хто яшчэ не абілечаны?"

У Магілёўскай вобласці з 6 красавіка павышаны тарыфы на праезд у гарадскім грамадскім транспарце. Кошт адной паездкі ў аўтобусе і тралейбусе павялічыўся да 1300 рублёў.

Тым часам у сталіцы Эстоніі Таліне ў ходзе апытання больш за 75% жыхароў прагаласавалі за пераход на бясплатны праезд у гарадскім грамадскім транспарце. Афіцыйнае рашэнне аб бясплатным праездзе будзе прынята ў верасні.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*



*г.Магілёў, Савецкая плошча*

“СПРАВА”
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб сродках масавай інфармацыі”.

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *30.04.2012. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

ВКонтакте
http://vk.com/id168308417